# ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Цэна асобнаго № 15 кап.

**Умовы падпіскі ня 1917 год.**

| За 1 м. | За 2 м. | За 3 м. | За 4 м. | За 5 м | За 6 м. | За 7 м. | За 8 м. | За 9 м. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 р. | 2 р. | 3 р | 4 р. | 5 р. | 6 р. | 7 р. | 8 р. | 9 р. |

Падпіска прымаяцца толькі с 1-го чысла кожнаго месяца.

Перамена адрэсу—50 коп. Пры зьмені адрэса конча прыкладаць стары адрэс.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны і толькі з аднаго боку папяры. Кепска перапісаныя рукапісы ні чытацца, ні друкавацца ня будуць.

На ліставаньня, перасылку рукапісаў і іншыя адказы-павінны прыкладацца маркі.

**Газэта палітычная, эканамічная і літэратурная.**

Год выданьня I.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Мінск, Захараўск. 18

**Умовы друку абвестак:**

(На IV боку газэты) за 1 радок шпальту 40 к. за 2 рад. 80 к. за кожны раз.

Асобам, шукаючым працы — 1 руб. за 3 радкі за адзін раз.

**№ 21. 1917 г. Пятніца Выходзіць двойчы на тыдзень. 29 верэсьня 1917 г. № 21.**


## Расійская рэспубліка.

Як ведама, Часовы Урад, маючы на увазі агульную прыхільнасьць да рэспубліканскай ідэі, выдаў закон, каторы устанаўляе у Расіі—р э с п у б л і к у.

Рэспубліка—гэта значыць, што у Расіі ня будзе больш ніякага цара: ні старога, ні новага абіраць ня будуць. Ня будзе ні цара, ні караля, ні імператара, —ня будзя такога чалавека, у якога улада пераходзіла-б ад бацькі да сына у спадшчыну.

Рэспубліка—гэта значыць, што дзеля кіраўніцтва дзяржаўнымі справамі будуць склікаць людзей найлепшых і найразумнейшых, такіх людзей, каторыя сапраўды прымаюць да сэрца інтарэсы людзей, і ніхто ні мае права упраўляць дзяржаваю толькі праз тое, што ён панскага роду, што ён радзіўся у палацах, а ні у простай хаці.

Цяпер, калі Урад нарэсьці выдаў закон пра рэспубліку, усякія ваганьня пра дзяржаўны лад у Расіі мусяць зьнікнуць. Цяпер павароту да старога ладу быць ня можа, і кожны, хто захоча зноў цара, будзе лічыцца злачынцам проці закону.

Урад доўга вагаўся выдаваць закон пра рэспубліку, бо людзі казалі, што толькі Устаноўчы Сойм мае права устанавіць рэспубліку. Гэтыя людзі звыклі рахавацца ні с тым, што патрэбна, а с тым, што на іх думку, згодна с правам, с тым правам, каторае ужо дажыло свой век і страціла жадны сэнс і значэньне. У тых людзей, як-бы добра і патрэбна ш т о ня было, але ня можна таго рабіць, калі старое, або выгаданае імі права таго ні дазваляе. Так і цяпер, яны добра ведалі, што рэспублікі хоча увесь народ і што выдаць закон пра рэспубліку вельмі патрэбна, а тым часам запынялі правіцяльство і казалі, што такі закон мае праба выдаць толькі Устаноўчы Сойм. А мы бачым, што скліканьне Устаноўчага Сойму усё адкладаецца і адкладаецца і нет ведама, калі ён склічацца. Расія і так цэлых шэсьць месяцаў ня мела ніякага дзяржаўнага ладу, шэсьць месяцаў у Расіі ня было ні цара, ні рэспублікі, і уся справа адкладалася да Устаноўчага Сойму. Ліхія людзі ня спалі, яны задумалі скарыстаць гэта ніпэўнае становішча дзяржавы, каб вярнуць старыя парадкі. Толькі тагды, як генэрал Карнілаў, умовіўшыся з другімі генэраламі, зрабіў спробу захапіць уласьць да сваіх рук,—толькі тагды Урад схамянуўся і выдаў закон пра рэспубліку. Такім чынам, у Расіі устаноўлен нарэсьці лад р э с п у б л і к а н с к і—Расія стала р э с п у б л і к а й.

Але выдаць голы закон пра рэспубліку мала. Гэта усё роўна, як ісьці дамоў ды спыніцца на палові дарогі. Трэба яшчэ паясьніць, якая то мае быць рэспубліка. Знойдуцца і тут людзі, каторыя стануць казаць, што гэтага нельга зрабіць бяз ухвалы Устаноўчага Сойму. Але на прыкладзі з абвешчаньнем рэспублікі мы бачым, што гэта няпраўда, а калі яны гэта кажуць, дык пэўна за тым, што ня хочуць паясьняць, якая павінна быць у Расіі рэспубліка. Зрабіць жа гэта трэба і як можна хутчэй, бо час ня чакае.

Расія—дзяржава надзвычайна вялікая, на прасторы расійскай дзяржавы магло-б патоўпіцца многа вялікіх дзяржаў, такіх як Нямеччына, Францыя і інш., а жыве у Расіі многа саўсім асобных народаў, і усе разумеюць што ня можна усімі тымі народамі кіраваць аднаму Ураду (правіцяльству) з аднаго Петраграду. Усе разумеюць, што трэба даць волю усім народам, каб кожны жыў у сваіх краёх па сваіх законах, а каб толькі дзеля агульна-дзяржаўных справаў прэдстаўнікі усіх народаў зьезджаліся на параду да Петраграду. Бо ня можуць аднакія законы здаволіць і тыя народы, што жывуць у стэпу і на зямлі працуюць, і тыя народы, што у гарах жывуць і жывёлу пасьвяць, і тыя народы, што на адном мейсцы ня жывуць, ні сёлаў, ні гарадоў ні маюць, а увесь час вандруюць з аднаго мейсца на другое. А такіх асобных, ні падобных паміж сабою народаў, у Расіі вельмі многа. Разумеяцца, каб нікому ня было крыўды, дык трэба каб кожны народ сам упраўляўся, ня крыўдзючы другога народу, ды каб кожны народ вольна разьвіваў сваю культуру і гаспадарскі дабрабыт. Усе народы роўныя, німа паміж іх ні лепшых, ні горшых, і усе яны маюць права жыць так, як гэта вымагаецца іх гістарычнымі і эканамічнымі варункамі і найлепш спрыяе іх добрабыту. Маючы дома свае уласныя законы і парадкі, кожын народ будзе пасылаць да Петраграду сваіх прэдстаўнікоў дзеля агульных, супольных усей дзяржаві справаў. Такая рэспубліка, дзе кожын народ мае свае законы і парадкі, а супольныя справы, што датычаць цэлай дзяржавы, разважаюцца прэдстаўнікамі усіх народаў, — называецца ф э д э р а т ы ў н а й р э с п у б л і к а й.

І вот, калі Урад выдаў закон, што расійская дзяржава ёсьць рэспубліка, дык ён ні павінян спыняцца на палові дарогі, а ніхай зараз жа паясьніць, якая гэта рэспубліка. Дзеля гэтага Урад павінян выдаць закон, што Расія ёсьць ф э д э р а т ы ў н а я р э с п у б л і к а.

Само сабою разумеяцца, што у расійскай федэратыўнай рэспубліцы усе павінны мець роўнае і аднакае права, як панэ, так і просты сялянскі люд. І выдаючы законы пра дзяржаўны лад, трэба гэта падцьвердзіць, каб ня было потым спрэчак, ні жаднага няпаразуменьня. Такая рэспубліка, дзе усе людзі маюць аднакае і роўнае права, называецца д э м а к р а т ы ч н а й рэспублікай.

Урад, выдаўшы закон пра рэспубліку, ні чакаў, покі зьбярэцца Устаноўчы Сойм ды ухваліць яго падзею; так сама ён павінян, ні чакаючы Сойму, выдаць закон, што расійская рэспубліка ёсьць ф э д э р а т ы ў н а я д э м а к р а т ы ч н а я р э с п у б л і к а.

Я. Л.

## Зьезд народаў.

8—15-га верасьня у Кіеві адбыўся зьезд народаў, скліканы Украінскай Цэнтральнай Радаю. На зьезд прыслалі сваіх прэдстаўнікоў усе народы і вобласьці Расіі, захопляныя нацыянальным рухам, апарт народаў Сібіры, але і тыя прылучыліся да зьезду, прыслаўшы сваё прывітаньне. Так сама, Часовы Урад, заўважыўшы, што зьезд будзе першым кангрэсам свабодных народаў Расіі, пастановы каторага мецімуць палітычнае і гістарычнае значэньне, прыслаў на зьезд свайго прэдстаўніка.

На зьезд прыехала больш за сто дэлегатаў. Разгледзіўшы іх мандаты [поўнамоцтва], камісія прызнала поўнапраўнымі 90 чалавек. Беларусаў—8 чалав., грузін—2 ч., эстонцаў—4 ч., жыдоў—10ч., казакоў—9 ч., латышоў—10 ч., літоўцаў—9 ч., палякоў—6 ч., румын (малдаванаў)—6 ч., расійцаў (маскоўцаў]—3ч., татар—10 ч., цюркаў—5 ч., украінцаў—9. Такім чынам, на зьездзі было прэдстаўлено 13 народаў Расіі.

Па партыйнаму пракананьню дэлегаты дзяліліся гэтак: соц.-дэмакрат.—13, сац.-рэв.—12, сац.—8, сацыял. федэр.—3, безпарт.—16, нац.-дэм.-4, рад.-дэмакр.—1, дэмакр.—6, трудов.—1, сіаністаў—5, сялянск. хаўрус.—1, сац.-народ.—2, нац.—9, літоўск. дэмакр. народ. сваб.—3, белар. сац. грамады—2, хрысц. дэмакр.—1, фэдэр.—5, нац.-рэвал.—1.

Польскія прэдстаўнікі, народ каторых дамагаецца нізалежнасьці, супрацоўнічаць на зьездзі адмовіліся, застаючыся на ём з дарадчым голасам.

На зьездзі былі ухвалены гэтакія пастановы:

### I. Пра фэдэрацыйнае адбудаваньне дзяржавы расійскай.

Зьезд народаў, скліканы у Кіеві Цэнт. Укр. Радаю, абмяркаваўшы на пасядзэньнях сваіх з 8-15 верэсьня справу будучаго ладу дзяржавы расійскай, спыніўся пасьля спэцыяльных дакладаў і іх абгаварэньня, на гэтакіх тэзах:

а] Першаю хібаю дзяржаўнага ладу Расіі, як пры старым парадку, так і пасьля рэвалюцыі, ёсьць надмерная цэнтралізацыя [з'асяродкаваньне] законадаўчай і выканаўчай уласьці.

б] Угрунтаваная на гэтым прынцыпі дзяржаўная машына ня можа як сьледнаісьці і гвалтуе паступовасьць дзяржавы.

в] Ня гледзючы на вялікую рознастайнасьць (разнообразіе) краёў і народаў Расіі, цэнтралізацыя уласьці затрымоўвае поступ гаспадарскай самачыннасьці насяленьня, спрычыняецца да эксплуатацыі акраін ніпрацоўнымі станамі цэнтру, а тым самым і да гаспадарчага занепаду гэтага цэнтру (асяродку).

г] Упарадкаваньне цэлае купы эканамічных спраў жыцьця працоўнага народу,—як зямельная і перасяленчэская справы, грамадзкая дапамога і іншыя,—вымагаюць гнучага і разнастайнага нацыянальна-адміністратыўнага апарату, дапасаванага да мейсцовых і бытавых асаблівасьцяў кожнай нацыі.

д] Калі нябывалая, па свайму напружэньню, у сьвеці вайна паставіла перад дзяржаўнаю машынаю асаблівыя вымогі на конта шпаркасьці і прадуктыўнасьці яе работы, дык яна выявіла цалкам сваю ніздольнасьць, ня можучы здаволіць самых пільных патрэб жыцьця і досыць часта валтузячы грамадзкую працу, каторая здолала-б здаволіць гэтыя патрэбы.

е] Цяперашняе бязладзе як на фронці, так і у тылу, ва усіх дзелянках дзяржаўнага жыцьця, мае сваю прычыну у дзяржаўным цэнтралістычным ладзі.

ж] Дзеля ратунку дзяржавы ад тае руіны, якая яе чакае, конча трэба зараз жа перабудаваць дзяржаву на саўсім новых падвалінах, каторыя ня пакінулі-б жаднае магчымасьці для цэнтралізацыі.

з] Дзеля таго, што гісторыя выпрацавала два тыпы дзяржаўнага ладу для вялікіх дзяржаваў,—складаючай адно агульнае цэлае, а сама—або цэнтралістычны, або фэдэрацыйны,—трэба мець на увазі гэту альтэрнаціву.

і] Першае дамаганьне сучаснай дэмакратыі—шырокае прычыненне грамадзян да дзяржаўнага жыцьця і налог да парадкаваньня гэтым жыцьцём законадаўчым, а не адміністрацыйным спосабам [напрыклад—абрахункі выдаткаў дзяржаўных]—магчыма толькі пры фэдэрацыйным ладзі дзяржавы.

к] Рэспубліканскі лад можа моцна стаяць толькі у фэдэрацыйнай дзяржаві, бо ў цэнтралістычнай дзяржаві лёгка можна рабіць зьмены дзяржаўнага ладу праз захапленьне цэнтральных ўстановаў.

л] Цэнтральная улада можа мець даверра усіх станаў люднасьці, а, значыць, і мець сілу пры фэдэрацыйным ладзі.

м] Праз тое, што Расія складаецца з асобных народаў, якія маюць большую ці меньшую нацыянальную самасьвядомасьць, разнастайную нацыянальную культуру, гістарычнае мінулае і з эканамічнага боку яны складаюць асобныя сваекапіталтныя часткі, дык ядына прыдатнаю формаю фэдэрацыі ёсьць такая, каторая пабудована на нацыянальных падвалінах.

н] Вялікія краё, заселенныя адною нацыянальнасьцяй, могуць, па бажаньню, або падзяліцца на колькі фэдэрацыйных едыніц, або, застаючыся фэдэрацыйным цэлым, даць аўтаномію асобным часткам краю.

о] Тыя нацыянальнасьці, каторыя—як, напрыклад жыдоўская—распарушаны па усёй дзяржаві і нігдзе ні маюць свайго краю, карыстаюцца правам мець экстэрытарыяльна-пэрсанальную аўтаномію.

Зважаючы на памянёныя памяркаваньня, Зьезд народаў, скліканы Цэнтр. Укр. Радаю прызнае, што Расія павінна быць ф э д э р а ц ы й н а ю дэмакратычнаю рэспублікай.

### II. Пра агульна-дзяржаўную і краёвыя мовы.

Зважаючы: а] што нізаконныя захады скінутага царскага правіцяльства да цалкавітае русіфікацыі народаў выклікалі у гэтай справі многа нідарэчнасьцяў, якія вельмі шкодзяць культурнаму жыцьцю народаў; б] што справедлівае адзначэньне права народаў Расіі на родную мову, якое-б забезпечвала вольны шлях да шырокага поступу нізавіслых нацыянальных культур,—ёсьць ніадкладная патрэба і павінна быць зробляна зараз-жа да Устаноўчага Сойму; в) што поўнапраўныя у гэтым сэнсі грамадзяне павінны усё такі узяць на сябе і купу абавязкаў, якія абмяжуюць правы іхніх моваў, але якія патрэбны с пагляду на дзяржаўны добрабыт,—Зьезд Народаў, скліканы Цэнтр. Укр. Радаю, пастанавіў:

1) С часу рэвалюцыі усе мовы рэспублікі сталі цалкам роўнапраўнымі і

кім выдаткам, робленым на гэта.

Беларускія вучыцелі, зрабіўшыя хаўрус, каб адваеваць права ужываньня роднай мовы ў пачатковых школах, былі засуджэны і шмат з іх яшчэ й цяпер на ссылцы ў Сыбіру, куды яны былі сасланы «адміністратыўным парадкам.»

Беларусы ня мелі прэдстаўніка у Дзяржаўнай Думі, дзякуючы выбарнай сыстэмі, прыдуманай спэцыяльнаа для Беларусі. Мова беларуская дагэтуль выключэна з цэркваў праваслаўных і каталіцкіх касьцёлаў.

Да апошніх часаў вяскoвая палітыка дзяржавы старалася калёнізаваць (заселяць) Беларусь вялікарусамі; Беларусам-католікам забараняли купляць зямлю, занімаць пасады на урадавай службі і закладаць ананімныя таварыствы.

Калі выбухнула вайна, Беларусы заложылі дабрачыннае таварыство помачы ахвярам вайны. Таварыства гэта працавало з мізэрнымі капіталамі ад дабравольных складак, каторых нe магло хапаць на патрэбы гаротных. Расійскі урад прыняў сыстэму помачы па нацыянальнасьцям; ён ўдзяліў досыць значную помач усім чужынцам, выключыўшы толькі Беларусаў і Украінцаў. У гэтым жэ часі расійскі урад эвукуаваў з розных мейсц Беларусі сотні тысяч селян беларускіх, нішчыў хлеб па палёх, паліў хаты і гумна; адступаючая армія гнала перад сабою эвакуованых, як быдла, ў варунках самых негігіенічных і самых цяжкіх аж у паўночную Расію і Сібір; дзяцей часта бралі ў прытулкі, каб іх русыфікаваць. З зямель беларускіх, захопленых цяпер Аўстра-Немцамі, выгналі каля 300.000 чалавек. Часьць жыхароў асталася ў сваіх сялібах, дзякуючы толькі таму, што іх вёскі лежалі па за шляхам баёў, або дзякуючы таму, што яны загадзя пахаваліся ў лясох і балотах.

Каля году ужо, як арміі расійскія і нямецкія бьюцца на зямлі Беларусі (і Украіны) і люд гэтай старонкі мусіць цярпець усе жахі вайны, будучы выстаўлены на паўнейшае руйнаваньне іх быту эканамічнага і спыненьне культуры.

Цяпер, дзякуючы III-й Канфэрэнцыі Народнасьцяў, мы маем магчымасьць першы раз за 120 гадоў заявіць цывілізованаму сьвету аб поўным браку у нас правоў, ад каторага мы цярпелі ў Дзяржаві Расійскай. Мы просім у цывілізованых народаў спагады нам і падтрыманьня, каб змусіць шанаваць нашы нацыянальныя і культурныя правы.

Мы можэмо мець нарэшці надзею, што, які-б сабе ня быў канец вайны, народы эўрапейскія памогуць нам запэўніць Беларусі усе палітычныя і культурныя правы, якія дадуць нашаму народу магчымасьць вольна развіваць свае інтэлектуальныя, маральныя і эканамічныя сілы і што гэтыя правы дазволяць нам быць гаспадарамі на нашай ўласнай зямельцы.

Прэдстаўнікі Беларусі.

Лёзанна, 27 чэрвеня 1916 г.

*) У 50-х і 60-х годох друкаваліся лацінкаю у Міеску, у Бейліна, беларускія творы Марцінкевіча, як польскія (Увага Рэдакц.)

**) „Раніца" і „Крапіва", выйшлі толькі на адному №. Не упамяута беларуская каталіцкая тыднеука „Беларус", якая выдавалася праз цэлыных два годы. (Увага Рэдакц.)

# Апошнія навіны.

## Нашы фінансы.

Расход на вайну выносіць ужо 41 мільярд с палавінаю руб. [мільяр—тысяча мільёнаў, а мільён—тысяча тысяч]; дзяржаўны доўг падрос ад 9 мільярдаў руб. да 35 мільяр., адных працэнтаў прыдзецца плаціць 1 мільярд 800 мільён. руб.

## Нацыаналізацыя Алтайскай школы.

Алтайская сэкцыя губэрнскага вучыцяльскага зьезду, пастанавіла вясьці навучэньне у пачатковых школках Алтаю на алтайскай мові, расійская мова павінна быць адною з навукаў у пачатковай школцы.

## Харчавая справа у Туркестані.

У 19 № мы ужо пісалі аб недахваці харчоў у Туркестані і аб думцы сартаў засеяць свае паля ні бавоўнікам, а жытам і пшаніцаю. Мы тагды казалі, што гэтая справа будзе яшчэ разглядацца на агульна-туркестанскім мусульманскім зьездзі. Цяпер гэты зьезд ужо адбыўся. Ен пастанавіў, што, калі Часовы Урад не паклапоціцца зараз жэ аб дастаўцы хлебу у Туркестан, адказацца ад пасеву бавоўніку, а засеяць паля пшаніцаю. Часовы Урад павядомлены аб гэтай пастанові.

Пытаньне гэтае разглядалося на сходзі Часовага Ураду 10 верасьня. Было пастаноўлено зрабіць самыя энэргічныя заходы, каб павялічыць падвоз хлеба у Туркестанскі край.

## Новыя Унівэрсітэты.

Часовым Урадам пастаноўлено адчыніць унівэрсітэт у Іркуцку.

Палтаўская гарадзкая дума пастанавіла адчыніць у Палтаві юрыдычны факультэт, як аддзяленьне Харкаўскага унівэрсітэту.

## Чэска-польскія адносіны.

Афіцыальны прэдстаўнік чэхаў у Расіі, прафэс. Масарык, некольні дзен таму назад быў у Маскве. Польская калёнія прымала яго надта сэрдэчна у кватэры таварыства «Лютня».

На прывітаньне А. Кольпарскага, праф. Масарык адказаў цікаваю прамоваю аб польска-чэскіх адносінах.

«... Наш моцны звязак,—гаварыў праф. Масарык,—выплывая з палітычнага палажэньня, вытворанага вайною.

Аўстра-Вэнгрыя, апанованная Гэрманіей, істнея толькі pro forma. Гэрманія і Аўстрыя—цяпер адна цаласьць; дзеля гэтага палякі, чэхі і славакі, як суседзі так сама злучаны дзеля супольнай абароны. Да гэтых народаў далучаюцца і палуднёвыя славяне дзеля змаганьня са страшным пангэрманізмам. Справа польская, чэска-славацкая і паўднёва-славянская творыць адно палітычнае пытаньне, бо пангэрманізм дамагаецца нямецкага аб'еднаньня цэнтральнай Эўропы.

Славяня заходнія і паўднёвыя павінны утварыць таймаваньне для нямецкага напору. Гэтую самую думку, выславіў ксёндз Лютаслаўскі, гаворачы, што канечнасьць такога запору ясна відна у гістарычным «развіцьці Польшы.»

«... Хаўрусьнікі,—гаварыў далей праф. Масарык,—адкідаюць нямецкую ідэю панаваньня аднаго народу (Herrenvolk) над іншымі, а прызнаюць вольнасьць малых народаў. Кажны народ, усьвядомляны і развіваючы сваю культуру, ёсьць роўнапраўнай едзініцай і часьцяй цэлага арганізму чэлавечаства. Мы, славяне, праціўпастаўмо нямецкай ідэі нашую уласную ідэю і погляд на чалавечаство,—ідэю далёка выжшую за прускую ідэю панаваньня.

Мы, чэха-славакі і палякі, ня толькі сваім геаграфічным палажэньнем, але й наказам гісторыі змушаны да як найцясьнейшага абараніцельнага хаўрусу. Гэта выплывая з страшнай нацыянальнай ворагасьці Гэрманіі. Палітычная матэматыка давяла абодва заходнія славянскія народы да прымірэньня на сьмерць і на жыцьцё.

Праўда, ёсьць паміж намі і спрэчныя пункты, напр. Сілезія. Аднак гэтая справа, у параўнаваньні са сьвятовым палажэньнем і нашымі вялікімі заданьнямі, здаецца мала-значнай. Мы ня былі-б годнымі вольнасьці, калі-б мы не маглі развязаць гэтага вузла...»

## Польская Акраінная Рада.

У памешканьні польскага клубу (у Кіеві) «Огніво» азбываюцца апошнімі часамі пасядзэньня Польскай Акраіннай Рады.

Думка аб утварэньні гэтакай Рады паўстала яшчэ падчас апошнага палітычнага зьезду прэдстаўнікаў польскіх арганізацый. На прыватных нарадах польскага насяленьня Украіны, Беларусі і Інфлянтаў [Мітаўск. і Курляндз. губ.], якія адбываліся адначасна са зьездам, было пастаноўлена стварыць «Акраінную Раду» з 12-ці членаў,—ад Украіны 5, ад Беларусі 4, ад Інфлянтаў 2, і, ад незанятых паветаў Літвы, 1 прэдстаўнік. Апрача таго, у склад Акраіннай Рады увайшлі члены Дзяржаўнай Думы ад памянёных губэрняў.

У выпрацаванай кароткай праграмі гаворыцца, што Акр. Рада у агульнапольскай палітыцы будзе выпаўняць пастановы палітычнага зьезду у Маскве, а у мяйсцовай палітыцы хоча мець рашучы голас і быць прэдстаўнікам усяе польскае народнасьці Украіны, Беларусі і Інфлянтаў.

На першым пасядзэньні Акраіннай Рады выбраны прэзыдіум. Старшынёй выбрана З. Грохольскага, памошнікам яго—Барташэвіча, і пісаром С. Бярэзоўскага. На двух першых пасядзэньнях абгаварываліся пытаньня арганізацыі польскага насяленьня Украіны, Беларусі і Інфлян-

---

Шчыра к сэрцу прыгартаў.
Дзед садзіўся каля дуба,
Плечы к комлю прыпіраў,
І ў старэчы рот бяззубы
Цыбучок кароткі браў.
А Сымонка проці дзеда
Клаўся проста жыватом,
І лілася іх бяседа
Згодным, пыткім ручаём,
Толькі ж дзед стаў штось трывожны,
Аб зладзеях гаварыў,
Незнаёмы падарожны
Страх на дзеда навадзіў.
І Сымонка зауважыў
Як дзед пазухі бярог,
Як туды ён часта лазіў
Толькі устаў або прылег.
—Што, дзед хвор?—пытаў хлапчына
—Ды й нядуж такі, браток,—
Крэкча хітра старычына,
Зноў хапаецца за бок,
Стогне, войкае нарокам,
Як бы й праўду штось баліць,
А у дзеда там за бокам
Срэбра, золата ляжыць.
Вот ён байкі выдумляе:
Як зладзеяў моцна б'юць,
Што за доля іх спаткае
Як у пекла пападуць!
Божэ, як іх там ушчуюць!
Вараць чэрці іх ў катлох,
Шкуру кіпцямі зьдзіраюць
З іх зладзейскіх рук і ног,
Бьюць іх ў сьпіну бусакамі
І жывое мяса рвуць,
І па пальцах малаткамі
Жараць, косьці іх таўкуць.
А найгорэй тым трапляе,
Хто нешчасных жэбракоў
Крыўдзіць, губе, акрадае—
І ні скажыш—німа слоў.

IV.

Быў як раз пачатак мая.
Ну, й была тагды весна!
От такая, што бывае
Можэ ў сотні лет адна.
У меру ўсё было і ў пору;
Доджджык пройдзе, зноў цяпло,
Усё цягнулось к сонцу, ў гору,
Красавало і цьвіло.
Выйдзеш с хаты на до-сьвеці
От бы воздух так і піў,
І раслі б, здаецца, дзеці,
Каб ў раньлі іх пасадзіў!
А дзянёчак як настане!
Сонцэ у лісьцю задрыжыць,
Капля роскі на каштане
Сьмехам ясным заблішчыць.
Якіх красак самавітых
Не адбьецца ў тэй расе.
Залатых і срэбралітых,—
Тэнчы коляры ўсе!
Сонцэ вышэй падплывае,
Хмарак лёганькі пушок
Тчэ з валоканцаў, сплятае
Сонцу беленькі вянок.
А вакруг так ціха, гожэ,
А наслухаеш—чутно,
Як расце травінка Божа,
Півак сьвежае руно.
І з зямлі празрыстым парам
К небу ўзносіцца туман,
Як малітва сонцу, хмарам,
І дрыжыць, гарыць пажарам
Скат узгоркаў і курган.
Ну, вясна была на дзіва!
Не, Сымонку не забыць
Тэй вясны, пары шчасьлівай,
Покі ў сьвецці будзе жыць.
То было як раз на Ўшэсьце,
Слаўны быў такі дзянёк!
Увесь дзень парыло, а ўрэшці,
Узьняўся ціхі вецярок,
Ды густы, падуў з заходу
І засьценьваў неба край.
—Будзе нейкая прыгода:
Кроку, хлопчэ, падбаўляй,
Доджж, брат, будзе: косьці ныюць
Млявасьць чуецца, браток...
Эх, як хмары неба крыюць—
Унь, іх коціцца клубок!
Дзед з Сымонам адзінока
Шлі дарогай між палёў.
—Глянь—мо'вёска нідалёка?
—Ні відаць нідзе дамоў,—
Азірнуўшысь, хлопчык кажа,
Ды ізноў маўчком ішлі.
А на захадзі, як сажа,
Хмары цёмныя ішлі,
Грамадзіліcь, націскаліcь,
Іх страшэнныя клубы,
Расхадзіліcь, зноў сплываліcь
Іх калматыя чубы.
Як зьмяе, клубке качаліcь,
Пэрэвальваліcь, зьліваліcь
Ды ўпярод цяжэрна йшлі,
Ткалі хмару за сабою,
Страшнай, цёмнаю сцяною
Выпоўзалі с-пад зямлі,
Шырэй неба ахіналі,
Ноч рабілі без пары,
І відаць што бушавалі
У хмарах страшныя віхры.
Ў бліскавіцах, з грозным рэвам,
Навісала хмар стрэха,
Гук далёкі Божым гневам
Разліваўся перш сціха,
Потым бліжэй, бліжэй плыне—
Ды часьцей, ды ўсё гучней.
—Ну, Сымон: доджж, брат, ліпе,
Хоць бы хата дзе скарэй!—
А Сымон быў зачарован
Хмараў грознаю гульнёй,
Погляд быў яго прыкован
Да таго, што над зямлёй
Хмары ў нёбі выраблялі,
Як таўкаліся яны,
Як маланкі іх гаралі
І трасьлі іх пяруны.
Дзед барджэй ісьці стараўся
І Сымонку падганяў,
Шоў, на момэнт прыпыняўся,
Вёскі поглядам шукаў,
Ды хрысьціўся тарапліва
Як маланка жахане.
—Божэ добры, літасьцівы!
Прагавора і ўздыхне.
—Дзед! Чаму прэд бліскавіцай
Ты крыж трэйчы палажыў?
—Ці ня ведаеш, дурніца:
Каб злы дух не падступіў,
Бо Ільля яго, паганца,
Лупіць стрэламі грамоў,
Раз'ежджаючы ў маланцы
Над зямлёй меж аблакоў.
А злы дух, чарцяка, знае
Як схавацца—не хлушу,
Так і гэтак падступае
Пад хрышчоную душу.
От яго і не пускаюць,
А як чорта не пусьціць?
Люд набожны гэта знае:
Крыжык трэба палажыць.
От чарцяка і адскочыць—
Крыж страшней ўсяго яму;
А Ільля тут і даскочыць...
Ну, дык ведаеш чаму
Людзі хрысьцяцца, нябога,
Як стрэляюць пяруны?
Каб часамі і самога
Не распляжылі яны.
Хлопчык слухаў, рот разявіў,
Страх Сымонку агарнуў
Зноў у хмары вочы ўставіў,
І пад ногі ён зірнуў.
І яму цяпер здавалось,
Што з ім поруч, як клубок,
Нешта чорнае качалась
Не іначэй, як чарток,
А у хмарах, на малапках
Верхам лётаў Ілія...
Ціха стала на палянках
Заспакоілась зямля.
Усё баіцца і чакае
Чагось страшнага, маўчыць...
Хмара ж цяжка насядае,
Грозна крыльля разнімае,
Гром бушуе, тарахціць.
—Дзедка! Бачыш—унь сяліба!
Крыкнуў радасна хлапчук.
—Што ж? Мяжою пойдзем хіба,
Дзед аклікнуўся на гук—
І с шляха яны зьвярнулі,
На цяньке ідуць мяжой.
Хмары неба апранулі,
Даль закрылася імглой,
Ось загуў дождж ў аддаленьні,
Вецер дружна праляцеў,
Закачаўся да карэньня
Лес і глуха зашумеў.
Як жывое срэбра, важка
С хмар пярэдніх дождж упаў,
За маланкай следам цяжка
Гром страшэнны загучаў;
І, здавалось, не стрымала
Хмара цежару грамоў,
Раптам ставы разарвала,
Быццам рэчка лёд ўзламала
І пабегла з берагоў...

(Працяг будзе).

Якуб Колас.

